# ВЕЧА-VIEČA

MERRY CHRISTMAS

ВЯСЕЛЫХ КАЛЯДАУ

№ 4 (14)

Год II, 1971 Сьнежань December Year II, 1971

# КАЛЯДЫ

Прышлі Піліпаўка, Мікола,
Дзянькі праходзяць больш вясёла,
Бо хоць зіма і крэпіць дужа,
І хоць бушуе яе сьцюжа,
Бы тое дзікае ігрышча,
І вецер жудасна засьвішча,
Як на дудзе ці на клярнэце
На нейкім зьлыдневым банкеце, —
Ды ўсё-ж сьвятлеюць даляў вочкі
І іх бялюткія сарочкі.
Ёсьць харатво і ў гэтых зімах
і ў мёртва-белых тых кілімах,
Што віснуць зьзяюць хрусталямі
Над занямелымі лясамі,
Калі ў вагністым мароз троне
Ў крывава барвавай заслоне
Над сьветам рукі ціха ўздыме
І зачаруе, ўсё абніме;
А як усходзіцца завея,
І вецер зь сьнегам задурэе
Ды затрасецца віхрам белым!...
Эх, колькі волі ў руху сьмелым!
— Гуляй зіма, твая часіна!
Ды скора будзе палавіна,
А там цяплом табе павее,
А ўдзень і сонейка прыгрэе! —
Паддасьць, бывала, дзядзька руху,
Пачуўшы холад-завіруху.
Ад гэтых слоў лягчэй на сэрцы,
Бо ўсё-ж маркотны вы, каберцы
Зімы халоднай і мярцьвячай,
І ласкі хочацца гарачай,
Вясны душа твая жадае,
І ў сэрцы радасьць расьцьвітае
Ад аднае ўжо толькі думкі,
Што гэта зімка зьбярэ клумкі

І пойдзе-зьнікне на паўгода,
І йзноў ажывіцца прырода.
  Прыелась хлопцам і вучоба:
Цяпер Калядак чакаць трэба,
І думка іх ня тым занята,
Ўсё болей ходзіць каля сьвята.
І міла гэта іх качаньне!
Адзнакі блізкіх зімніх сьвятак —
Гарыць салома каля хатак.
Пажар вясёлы ў час сьвітаньня!
— А што там сьвеціцца, нябожа?
Няўжо гарыць хто, ня дай Божа? —
Не, не пажар: то — сьцяг калядны, —
Япрук там смаліцца дзесь ладны.
Свой крок апошні замыкае:
Япруччa доля ўжо такая.
  І кажны дворык, кажна хата,
Хоць і жыве ня так багата,
Але Калядаў у вадзнаку
Заколе хоць-бы падсьвіняку,
І дворык свой ці прыгумень
Асьвеціць раніцай ці ўдзень,
Бо хто-ж, скажэце, хто ня ласы
На тое салца і каўбасы?
Другі Каляд не дачакае,
Цішком сьвяжынкі паспытае,
А ўжо на сьвята — што казаці? —
Паходзіць так каля сьвінчаці,
Што ўжо на ночку разоў дзесяць
Табе жывот закуралесіць.
І гэта, братцы, не загана!
Даўно, ня знаю, кім казана:
  „Калі заколеш япрука ты,
Ды не пабегаеш за хаты,
То гэта — гонар невялікі,
Гэта — вясельле бяз музыку,
Як кажа мудрасьць чалавеча”.
  Але зірнём мы на Парэчча,
Чым там у лесе жыве хата,
Як там рыхтуюцца да сьвята
І як Калядкі сустракаюць.



Навуку хлопцы прыпыняюць,
У іх — разьвязаныя рукі:
Да „Правадоў” няма навукі.
Дарэктар з радасьці сьпявае,
Дадому едзе, спачывае.
І летні збор цяжэрнай працы,
Хлябоў высокі торп-палацы,
Праслухаў цэпаў голас ёмкі,
І дзе быў торп — там стог саломкі,
А цэп замоўк, хоць не навекі,
І зерне ссыпалі ў засекі.
  Антось таксама цяпер вольны,
Яму — бы празьнічак прастольны:
Сюд-тут, глядзіш — ён ухадзіўся,
Ці зьеў, ці не — на луг пашыўся;
Цягнуў луг дзядзьку, ім валодаў
Сябра майстэрства і паходаў,
Сякерку, вострую падругу,
Засуне спрытна за папругу.
І Костусь зь дзядзькам ,як вядома;
Хіба, ты ўседзіш цяпер дома?
А зь дзядзькам пойдзеш — так цікава
Яны йдуць бойка і рухава,
Бо зімні холад падганяе.
  Любота, братцы! сьнег лятае,
Ды так спакойна, так ціхутка!
Куды ні глянь — усё бялютка.
А тыя лёгкія пушынкі,
Сухіх чаротаў ледзь крануцца,
То так-жа люба засьмяюцца,
То ціха-ціха загамоняць,
То штось шушукнуць, то зазвоняць.
А там, між лесам і табою,
Сам Бог паводзіць барадою:
Трасецца сетачка сьняжынак,
Як сьмех прыгожанькіх дзяўчынак,
Што звоніць песьняй маладою.
  Антось на рэчцы прыпыніўся:
Тут першы загарад таіўся
Пад гэтым сьнегам і пад лёдам
З адным аднюткім толькі ходам,
І той бучом быў перахвачан —

Яшчэ увосень час тут страчан —
Палонка лёдам моцна скута,
Ды працы тут адна мінута.
Палонку дзядзька прасякае,
А Костусь, радасны, чакае
І зорыць пільна ён вачыма,
Калі той бучык дзядзька ўзьніме.
А дзядзька — о, ён акуратны!
Работнік дзядзька наш выдатны:
У ўсім парадак і лад любіць
І часу дарма ён ня губіць!
Прасек палонку, крыгу вынуў,
Тады на бучык вока кінуў,
Бярэ на палку, падымае
І буч на бераг выкідае.
І дзядзькаў твар крыху сьвятлее —
Была слабая тут надзея;
А вось, глядзі, там штось шалпоча, —
Відаць, іх доля ня сірочая!
І буч кулём у гору ставяць
І часу доўга тут ня бавяць.
Разьвязан куль. Тут гоман, сьмех,
І рыбу вытрасьлі на сьнег.
Акуньчык спрытна страпянуўся,
Мянёк завала ўзварухнуўся,
Яшчэ мянёк ды пара плотак, —
Ну, вось табе і заработак!
А там яшчэ ёсьць загародкі!
Ня дарма, не іх пераходкі!
Ідуць дадому, разважаюць,
Чаго на сьвяты накупляюць —
Антось часамі, як дзіця.
Тымчасам заўтра і Куцьця.
Міхал — ўжо нейк ўвайшло у моду —
Ў Нясьвіж прад сьвятамі што-году
Вазіў для замкавых паноў
Грыбы і рыбу, і зайцоў.
Куцьця. Марозна. Хмурнавата.
Сьняжок падкідвае заўзята;
Сьнег на Куцьцю — грыбы на лета,
Такая матчына прымета.



А сьцежкі чорны — ягад многа;
Ну і за гэта хваліць Бога.
Аббегаў Ўладзя раўчавіну
І клін і пасечку, лагчыну,
Па жменцы ў сьнег аўсу стаўляе —
Зайцоў ён гэтым прывабляе,
Каб праз акеначка з каморы,
Калі прынадзіцца каторы
У ночку цёмную хадзіць,
Навесьці стрэльбу і забіць,
Бо тут зайцоў было даволі.
І дроў на сьвята накалолі.
Трасянкі загадзя натрэсьлі,
Сянца пахучага прынесьлі:
Куцьці гаршчок ужо ў калена
Стаяў на лаве, чакаў сена,
І вось цяпер гаршчок з куцьцёю,
Як цар даўнейшаю парою,
Ў пачэсны тут, на свой прастол,
Стаўляўся з гонарам за стол
На гэта сена пад Багамі,
Ўладар над хлебам і блінамі,
Бо ён у гэты дзень — пэрсона!
Яго вянчаў абрус-карона:
Гаршчок агорнуты пашанай,
Хоць ён фаміліі глінянай.
Якія-ж матчыны намеры
На конт куцьці, на конт вячэры?
Ох, гэта дзецям знаць цікава,
Калі якая будзе страва,
Ў якім ліку, ў якім парадку?
Што на канцы і што ў пачатку?
А ў маткі ўсё абмеркавана
І ўсё прадумана ад рана.
Там, на гары, пад шчытам дзе-та,
Быў мак павешан яшчэ зь лета —
Цяпер у цёрле ён пацёрты.
У патайным куце каморы,
Як сьмерць Кашчэя, пад запоры —
Мядок быў хітра дзесь запёрты —
Цяпер яго насталі часы,

Бо ён патрэбен для закрасы,
І што кісель той бяз сыты
У вечарок гэты сьвяты?
  Маўчком Антось часінай шэрай
У ельнячок шмыгнуў зь сякерай:
Ці-ж ён зьвярэдзіцца, і згрэшыць,
Калі малых дзяцей пацешыць
І іх ялінкай пад Куцьцю
Хоць раз забавіць у жыцьцю,
Калі забавіць толькі зможа?
Ялінка ў хаце так прыгожа!
І колькі радасьці і ўцехі!
На ёй валоскія арэхі,
А з пазалочанай паперкі
Глядзіш панадныя цукеркі;
І больш не ёй няма нічога,
Ды хіба-ж дзецям трэба многа?
Даволі зь іх і тэй прынады —
Яны давольны, яны рады.
  У хаце добры лад і згода
Як патрабуе і прыгода,
Паважнасьць вечара сьвятога —
Ня ўчуеш слова ты благога.
І ўсе прыбраліся і памыліся,
Міхал з Антосям падгалілісь
І парашчэсвалі чупрыны.
— Ну, засьцілайце стол, мужчыны!
І стол той гуртам прыбіраюць,
Настольнік белы падымаюць,
На стол растрэсваюць мурог —
На сене колісь быў Сын-Бог —
І роўным пластам расьцілаюць,
Сянцо абрусам закрываюць.
За стол садзяцца ўсе ў парадку
І прад сабой кладуць аладку,
Відэльцы, лыжкі разьбіраюць,
І стравы першае чакаюць.
— Ты, брат, глядзі не ашукайся:
Ня надта зразу накідайся,
Бо потым шчыра пашкадуеш,
Калі жывот свой напіцуеш:



Чым дальш — смачнейшыя патравы,
І многа іх,, усе цікавы;
Я знаю хітрасьць гэту ўсю, —
Алесь гаворыць Кастусю.
Міхал бутэльку адтыкае,
Бо ўжо закуска тут чакае:
Стаяць, як горкі, скавародкі,
Тут акунькі, мянькі і плоткі,
Ды так падсмажаны, што люба —
Сама да іх імкнецца губа.
Гарэлка, радасьць-весялуха,
Прыемна булькае для вуха
І гэтак вочы прыцягае,
Ну, як каханка маладая!
— Ну, што-ж Антось, здароў будзь браце!
Няхай дае Бог лад у хаце,
Дабра, прыбытку прыспарае,
Каб у хляве ды ўсё пладзілась,
Каб жыта ў полі каласілась,,
Няхай раяцца добра пчолы ,
І самы будзем мы вясёлы;
За год дай Божа дачакаць
Здаровым новы год спаткаць.
— Дай Божа! — дзядзька адазваўся
П'ючы цяпер да гаспадыні —
Падатак кажнай дай часіне,
На ўсё гатовы ў кажным часе. —
  І вось вячэра зачалася!
Спыніцца мушу я на квасе:
Ён колер меў чырванаваты;
Тут быў таран,, мянёк пузаты,
Шчупак, лінок, акунь, карась,
Кялбок і ялец, плотка, язь,
Яшчэ засушаныя зь лета.
Але ня ўсё яшчэ і гэта:
Закрашан квас быў і грыбамі,
Выключна ўсё баравічкамі;
Цыбуля, перчык, ліст бабковы —
Ну, не ўясісь, каб я здаровы!
Пільнуй — цішком скажу між намі —
Каб і язык ня ўцёк часамі.

За квасам елі верашчаку,
А потым блінчыкі на маку,
А там ламанцы-праснакі
З пшанічнай добрае мукі;
А макаў сок такі салодкі!
Ламанцы ў ім, ну, як калодкі —
Так добра макам праняліся,
У рот паложыш — абліжыся.
За праснакамі йшлі кампоты,
Кісель з мядоваю сытою;
Вячэру скончылі куцьцёю,
Але ўжо елі без ахвоты,
Абы падатак той аддаць,
Стары звычай ушанаваць.
І посьле гэтакай вячэры
Жывот выпучваўся бязь меры,
А з-за стала як уставалі,
То нават трохі і стагналі.
На першы дзень сьвятых Калядак —
Такі ўжо быў стары парадак —
Зьбіралі сена із стала,,
Кармілі ім каня, вала
І ўсіх жывёлін, хоць па жмені,
А на стале, ў драбнюткім сене —
Здавён-даўна вялося й гэта —
Уважна зернятак шукалі
І па тых зернятках гадалі,
Які зародзіць хлеб на лета?

(Із паэмы „Новая Зямля", Якуба Коласа)



# EDITORIAL

Every person, generation and nation has its own history. This history can be bright, turbulent or unfortunate. Individual history will end with the death of the individual and will only continue to live after his death if his purpose of living was more than just to satisfy his own ego. Today, mankind has a greater desire to better his material world than his spiritual world. Most leaders of today's world completely ignore the rest of the world and see themselves as beneficiaries of others. We live in a beastly world of stronger men, generations and nations. For many nations and politicians, it is normal; for the many millions of illiterate and weak, it is a terrible world.

Many hundreds of years will probably pass before mankind will begin to live by humanitarian principles. Today, humanitarian principles serve as a mask for the strong in this world. The Byelorussian people today are an unfortunate people. To defend ourselves and to live up to our desires, we must be strong. To be strong, organization must come first. Organization is possible if you are free as an individual — which is impossible without the independence and democracy.

Byelorussia-Greatlitva today is a dependent country with a totalitarian government ruling from the Kremlin. There is no freedom for the individual. Therefore, people cannot organize themselves easily and become strong. If the people would organize and defend themselves, the Kremlin would then work for the people, not against them. Many of us while facing the strong in this world, because we do not know how to deal with the problem, will become passive or opportunistic, which is for most a chosen individual psychological attitude which helps perpetuate dictatorship.

There are more than two million Byelorussians in the Free World. There, they have individual freedom, and therefore have the opportunity to organize themlelves, to be strong and to become a leading force in helping Byelorussia-Greatlitva, which is still in the hands of red fascists. Being well organized in the Free World would be very beneficial for all Byelorussians. It is our duty to help our people, who are facing the genocidal policy of our neighbors.

Those who belong to Byelorussian organizations in the Free World will probably say „so what, join any one of these organizations and lets start acting instead of talking". It is the same as the Kremlin says to us today: "Why are you crying in the Free World? Return to Byelorussia and talk or act there." As you see, there is similarity! Why? They

are different people, but they have the same tactics. The editor of "Vieca" has observed Byelorussian organizations in the Free World, for over twenty years and has come to the conclusion that a dictatorship is the same regardless of nationality. In the Free World, students of Stalin, Pilsudski and Hitler are not able to organize the majority of our people. A democracy and a dictatorship cannot work together. In other words, ordinary people like to be free. The existing, very small Byelorussian organizations in the Free World are trying to dictate us, and as a result, the majority of our people prefer to be outside of these organizations — they prefer to be free. Any attempt to organize Byelorussian centers so that tolerance, democracy and intelligence prevail will in a short time be destroyed by the leaders of organizations such as BAZA, Byelorussian Congressional Committee, etc. Now you may understand why the editor of "Vieca" is defending Little Byelorussia — Belair Miensk. For many years I have been trying privately to convince the "fuehrers" of the Byeloruscian nationality that trickery, gossip and other immoral psychological equipment will not help them organize our people. Their dirty work on the territory of Little Byelorussia — Belair Miensk, forced me to openly, before you and history, speak straight into the faces of those who caused all of the troubles in our tired society, outside of Byelorussia-Greatlitva.

Our greatest tragedy is that the Byelorussian intelligentia in the Free World does not have the ability to recognize and correct its own wrongdoings. A Free Society of Byelrussians is *necessity* to us, in the Free World. The Byelorussian people, especially the peasants in Byelorussia represent a Free Society in itself. It is the Kremlin rulers and their Byelorussian quislings from Russian schools who are forcing the rules practiced on zoo animals on our people. It is hard to believe that the majority of our intelligentia are representing the occupiers not the Byelorussian people.

*Editor*

---

## НАВІНЫ, АГЛЯД ПРЭСЫ - КАМЭНТАРЫ

In the last year many Byelorussians suggested organizing a Byelorussian Orthodox Church in the vicinity of South River and Highland Park.

Many agreed that because of the existing Byelorussian partisan churches in those cities, it is not necessary to build a third church for those who do not agree with their partisan thinking.

The best location for this church would be on a farm of at least ten acres having a source of a brook situated on it, in the vicinity of Englishtown, New Jersey. It will serve Byelorussians of Central Jersey — Freehold, Trenton, South River, Monroe, Spotswood, East Brunswick and other towns and cities.

A Byelorussian Religious and Cultural Center with a church, museum, entertainment facilities, school for children and sport facilities has been due for a long time in this region, because of the dense Byelorussian population.

Most people agreed that there will be no unity between existing Byelorussian partisan churches. Talk of uniting is only smoke in the eyes of liberal thinking Byelorussians. Two dictatorial organizations will never unite, it is not their nature. Hitler and Stalin made an agreement before the second World War, but it only lasted for a few months. A terrible catastrophie for the people of both sides and the complete annihalation of the leaders of the other side was the end result. It is a rule, and it works that way.

In the Free World, Byelorussian democrats as well as Byelorussian fascists are protected by the law of democracy. Therefore, we cannot make a war utilizing jets, cannons and other war hardwares. The best thing to do is to have our own organizationes and our borders will be protected by the laws of the countries in which we live. Trickery and gossip could easily be destroyed, besides, in ten to fifteen years, most of their leaders wiill disappear naturally, and with them, will disappear the troubles stirred up by them. We have already lost too much time. We were trying to unite around Little Byelorussia — Belair-Miensk, Byelorussian Rada in Chicago and other organizations. It worked for a short time, but it worked in the same fashion as the agreement between Stalin and Hitler — with the exception that they cannot kill the leaders of either side — they are only able to destroy the organization.

Destroyed freedom in Byelorussia brought most of us to this country. There is no justification of replacing the foreign dictatorship with our own. Freedom — Volja, is a dream of our people. Dictatorship is a disease which infected Byelorussian collaborators with our occupiers. There is another group of churches and organizations. The illiterate, in love with Freedom — Volja, liberals, therefore unpractical, Byelorussian old emigrants, who easily believe in the Kremlin propaganda which says that they do everything for the people, who are trapped under churches under Moskow's jurisdiction. It is the greatest insult to those Byelorussians who know the Kremlin in reality. Therefore you must get out of those red traps. God help us! Please write to the editor of "Vieca" or call 249-2255 for information.

**БЕЛАРУСКІ ГОЛАС № 196, 1971**

## „ЗАІНТЭРАСАВАНАМУ У ПРАЎДЗЕ" ІЗ НЬЮ-ЙОРКУ

**„Газэта непрадрашэнцаў у Нью-Йорку выходзіла на фонды Цантральнай Разьведвальнай Агенцыі...**

**Амэрыканскі Камітэт „Свабода" і сяньня аплачвае выданьне мафійнага непрадрашэнскага „Беларуса" праз аплачваньне гэтак званых „радыёскрыптаў", якія пасьля зьмяшчаюцца, як артыкулы ў „Беларусе".**

**Буйныя складкі на газэту іхнай вярхоўкі складзенай з дахтароў, інжынероў і бізнэсыстаў, гэта толькі дадатак, ну а друкаваньне гэтых 100-даляровых ахвяр ў газэце, гэта ўласьне спроба ўмовіць звычайнаму Беларусу, што „Беларус" трымаецца толькі дзякуючы гэтым грошам.**

**Нажаль мы ня маем у сваім незалежніцкім асяродзьдзі паза адзінкамі вялікшай групы прафэсыяльнай інтэлігенцыі, як яны. Змаганская інтэлігенцыя пагінула амаль поўнасьцю на палёх крывавай барацьбы на бацькаўшчыне, за яе вызваленьне і волю. Салаўкі, тундры і тайгі Сыбіру, канцэнтрацыйныя лягеры Варкуты, Ухты, піўніцы катоўняў ГПУ-НКВД, вастрогі мардоўні Польскай дэфэнзывы, кулі і лягеры Гестапо вось яе пакутны змаганскі шлях. Засталіся толькі безпрынцыповыя калябаранты з акупантамі і скурнікі. Яны і склалі ядро той старэйшай уцякацкай інтэлігенцыі уцалеўшай у краі, ды выплыўшай як „патрыёты" ў вольным сьвеце, дзе быць гэтым „патрыётам" не пагражала вастрогам, ці куляй".**

Вельмі дрэнна, што радактар „Беларускага Голасу" не зьмясьціў ліст да радакцыі. Спынемся на камэнтарах радактара „Беларускі Голас" на ліст заінтэрасаванага із Нью-Йорку.

Радакцыя „Веча" хочыць зьвярнуць увагу на радыёскрыпты. Із беларускага нацыянальнага інтарэсу гэтыя скрыпты ёсьць недапісанымі, таму што сьвецяць там дзе ёсьць бачна. Недапісана ёсьць у скрыптах, як із праблемай справіцца, як зьнішчыць бальшавізм а гэта тое што цікавіць Беларускі Народ. На эміграцыі, „фюрары" стараюцца прыгнуць вышэй свайго пояса, калі зробіш заўвагу на іх „дзейнасьць". Адразу пачуеце: „Лягчэй крытыкаваць, паспрабуйце зрабіць", альбо „Дзе ён быў тады"? Слухаючы радыё „Свабода" не адзін Беларус на Бацькаўшчыне гаворыць тое самае: не знаеце вы мае галубкі і палавіны, што тут робіцца. Лягчэй паказваць із Мюнхена, але паспрабуйце зрабіць штось, вось тут!

Для таго каб нешта зрабіць трэба ўзяць усе факты, прааналізаваць іх аб'ектыўна, зрабіць вывад дый пачаць рабіць. Радыё „Свабода" маіць усе магчымасьці зрабіць так. Ці гэта гаспадары радыё, ці прафэсыянальныя калябаранты із беларусаў ёсьць вінаватымі за тое, што ня хочуць паказаць сьвятло, дарогу там дзе ёсьць так цёмна, страх і небясьпека.

Калі немагчыма паказаць спосабы барацьбы із бальшавізмам праз радыё „Свабода", то чаму газэта „Беларус" няхочыць паказаць на сваіх балонках. Із складзеных партыйных грошы ёсьць дастаткова на друк. Прычына, ў вялікай ступені, ёсьць асабістая. Старэйшая інтэлігенцыя на эміграцыі сёньня была ў калябаранцтве із усімі акупантамі нашае Бацькаўшчыны. На эміграцыі яны вышукалі нават Ватыкан. Адна частка із іх стала прафэсыянальнымі калябарантамы, другая частка хочыць быць пасьлядоўнай у сваей дзейнасьці, а вось здарыцца так, як мы дзеялі і жадаем. Тыя, што ў супрацоўніцтве із акупантамі зайшлі далей чым калябаранцтва ўжываюць вось такую формулу: мы бораемся із камунізмам а потым будзем рабіць праграмы. Камунізм гэта номер адзін праблема. Як бачым „і сена цэла і коні сыты", але наша ідэя церпіць.

Па зьместу газэты „Беларус" можна заглянуць у душу „ідэялістаў", каля гэнай газэты.

1. Чаму радакцыя газэты „Беларус" упіраецца, што газэта ня ёсьць партыйнай? Адказ. Таму што верацъ у дыктатуру. Паказаць партыйнасьць гэта значыць мець справу із дэмакрацыяй. Замаскаваўшысь за БНР яны стараюцца паказаць, што ёсьць „анёлы" якія робяць толькі „дабро". У дэмакратычным сьвеце партыйнасьць ёсьць пашпарт да ўлады. Як бачым, палітычная тактыка „ідэялістаў" каля „Беларуса" ёсьць небясьпечнай і шкоднай для нашага народа.

2. Дзе можна бачыць партыйнасьць і дыктатуру ў газэце „Беларус"?

Асабліва вытыкаіцца вуніяцка-каталіцкая „дзейнасьць", асаблівую павагу аддаюць яе лідарам, пасьлядоўцам. Навіны із жыцьця эміграцыі падаюцца на 99,9% із свайго асяродка. Ігнарыруюцца тыя, хто дзейнічае паза іхнай арганізацыяй. Патрэбна ім гэта для таго каб замаскаваць дзейнасьць іншых Беларусаў, дый паказаць сваю вышасьць-аўтарытэт. Так толькі робіць бальшавіцкая „Правда", „Известия". Там дзе будзіць аб'еднаньне Беларусаў будуць старацца замаўчаць альбо раскалоць арганізацыю. Напрыклад, калі дзе былі супольныя сьвяткаваньні 25 Сакавіка, хроніка будзіць перакручана альбо будзіць зусім непавядомлена, жыцьцё Бэлар-

Менску, трагедыя ў царкве Сьв. Юрыя ў Чыкага, суд япіскапа БАПЦ із прыхажанамі ў Нью-Йорку і г. д.

3. Чаму газэта „Беларус" супроць аб'яднаньня? Аб'еднаньне і дэмакрацыя ёсьць адно і тое самае. Той хто не ўважаець дэмакрацыю заўсёды будзіць дзяліць, скрываць, пускаць сплёткі, ставіць немагчымыя ўмовы, каб толькі не аб'еднаць.

4. Чаму газэта „Беларус" ня хочыць на сваіх балонках дыскутаваць на грамадзкія тэмы, хаця-бы так, як часапіс „Веча".

Адказ. Дыктатура „заўсёды-чыстая". Хіба ў Савецкім Саюзе можна дыскутаваць пра „дзейнасьць" Крамля.

5. Чаму Захад падтрымоўваіць гэную газэту із падобнымі ей арганізацыямі?

Адказ. Большая па колькасьці прыхільнікаў БЦРаўшчына ёсьць скампрамітавана. Дэмакратычнай арганізацыі на эміграцыі па сёньня немагчыма арганізаваць. У барацьбе із бальшавізмам Захад супрацоўнічае із тымі, хто ёсьць выгадны яму.

Далей сп. Хмара тлумачыць чаму на „Беларускі Голас" няма вялікіх грашовых складак, а на „Беларус" ёсьць. „Праўда" пра якую вы хочыце сказаць зусім ня ёсьць тая. Мы праўду бачым інакш. Бліжэйшыя да я інтарэс, ідэя яднаюць людзей перш. Агулна нацыянальныя клічы на эміграцыі сталіся туманом у вочы іншым. БЦРаўшчына арганізавана із людзей якія супрацоўнічыллі із немцамі, дый маюць супольны інтарэс: як-бы ў гісторыі апраўдацца, зрабіць сабе славу. Многія верць у фашызм.

Эміграцкая БНР рэпрэзантуе беларускую каталіцкую інтэлігенцыю, ксяндзоў, апартуністычна-праваслаўную інтэлігенцыю дый няпісьменную частку Беларусаў із добрым сэрцам але кароткім розумам. Каталіцкая рэлігія ёсьць духоўны фундамэнт для многіх Беларусаў каталікаў, аднак найбольшай шкодай ёсьць тое, што яны ў канспірацыйны спосаб праводзяць свае ідэі для ўсіх Беларусаў, не зважаючы ці гэта ёсьць добра ці на зло цэлай нацыі. Сумелі яны праз Лювэн дый іншы спосаб падкаваць сваей ідэяй частку праваслаўных Беларусаў, сумелі яны пераканаць другую частку Беларусаў, што у палітычнай ігры гэта ёсьць неабходна. Вось гэта той партыйны асяродак які фінансуе газэту „Беларус". Прозьвішчы ахвярадаўцаў прамаўляюць, што гэта так ёсьць.

КВБаўшчына не рэпрызэнтатуе аніякай ідэі альбо блізкі інтэрэс я вялікае групы Беларусаў, паза радактарам „Беларускі Голас". Тыя што паспрабавалі, а можа, што можна будзіць зрабіць ідэйна із рад. Хмарам, даўно пераканаліся, што гэта немагчыма. Тых каго сп. Хмара хацеў-бы бачыць на сваім баку не захацелі быць із ім, а пайшлі там дзе ідэя, інтарэс бліжэй да свайго я (Пунтус, Мерляк). Чаму радактар „Беларускі Голас" памагаіць „рыцарам" свастыкі каб разваліць агульна беларускую арганізацыю Бэлэр Менск, якая налічваіць больш, як 200 сямей із усіх асяродкаў? Што за прычына? Хібаж гэта ёсьць шкодна для нашага нацыянальнага інтарэса, што тут аб'едналісь людзі ўсіх поглядаў. А можа таму вы шкодзіце, што арганізацыя Бэлэр-Менск ня ёсьць прыбудоўкай КВБаўшчыны. Чаму вы схавалі трагедыю у Беларускай Царкве Сьв. Юрыя, у Чыкаго? Як прэзыдэнт КВБ, чаму вы ня хочыце паказаць своей партыйнай праграмы? Калі радактар часапіса „Веча" пачаў пытаць „прэзыдэнтаў" пра іх праграмы, даючы добрыя прычыны чаму гэта патрэбна; вы гэта, як і іншыя факты назвалі „палемікай", хоць ахвотна перапісвалі, як вартасны матар'ял для газэты „Беларускі Голас". Чаму памыі а не ідэі сталіся для вас сродкам у барацьбе із сваімі людзьмі? Няўжо, су. Хмара, ня лепш спаборнічыць ідэяй? Што вас змушаіць ня толькі так, але ў некаторых выпадках горш, як газэта „Беларус" пішыць, а гэта хіба асноўная прычына чаму людзі не даюць ахвяр на „Беларускі Голас".

**БСЭ** том II, канчаіць першы том на літару А дый пачынаіць на літару В. Пад літарай Б можна знайсьці цікавыя інфармацыі.

Кідаецца ў вочы, што амаль усе назовы беларускіх газэт і часопісаў, посьле Другой Сьветавой Вайны на эміграцыі былі ўжываны ў Заходняй Беларусі да 1939 года. Газэту „Беларус" выдавалі каталікі ў Вільні ад 1913 да 1915 года.



*Ашмяны. Від на горад.*

Няма апісаньня ўсіх населеных мейсц, рэчак на літару Б, як ня было і на літару А ў першым томе. Як бачна было зроблена наўмысьля. Калі ў першым томе БСЭ умудрыліс пад акупацыйным рэжымам, пералічыць усе вёскі зьнішчаныя немцамі падчас II вайны, то гісторыю іншых вёсак на Беларусі было лепш прамаўчаць. На здымках гарадоў і вёсак, можна бачыць, толькі часткова, паказухі. Аб'ектыўная навука і сацыялістычны „рэалізм" немаюць нічога супольнага.

На 215 бачыне, пад арганізацыяй „Беларускае Таварыства па культурных сувязях з суайчыньнікамі за рубяжом" пададзены лік эміграцыі із БССР за апошніх 50 год, які раўняецца 1 міліён 837 тысяч. Лік ёсьць большы, таму што больш, як палавіна Беларускай тэрыторыі належыць да нашых суседзяў. Хочыцца прыпомніць радам і беларускім палітычным садыстам на эміграцыі, што можна зрабіць больш карыснага для Беларусі, чым прадаўжаць самадыструкцыю радзі задаваленьня свайго хворага Я.

---

**ПРЭСА із БССР.**

* Інстытут мовазнаўства, імя Якуба Коласа, пры Акадэміі Навук БССР сабраў 1200 тамоў жывой беларускай гаворкі. Сабраны матар'ял апрацаваны, ў „Дыялектычны Атлас Беларускай Мовы", над якім вучоныя БССР працавалі, пачынаючы ад 1950 года, аж 15 год.

Некалькі прыкладаў, калі адна і тая самая рэч„ зьява ў розных мяйсцох называюцца па рознаму (сынанімы). Прыспасабленьне цягнуць ваду із студні называюць: сошка, расоха, чапля, рагач, каза, шчогла, паль, журавель, баба і г. д.; перавясёлку завуць: радуга, вясёлка, радаўніца, тэнча, цмок, дажджуха і г. д.

Вельмі пажадана, каб вучоныя БССР дамагліс дазвол ад Крамля, на дасьледваньня распаўсюджваньня гэных слоў паза межамі БССР: на ўсход, захад, поўнач і поўдзень. Сорамна беларускім моваведам, пісьменьнікам, паэтам на эміграцыі, што не заадзіночацца ў навуковае таварыства па вывучэньню Беларускай Мовы.

* На глыбіне больш, як 20 мэтраў, каля Жыткавіч пачнецца ў адкрыты спосаб дабыча бурага вугля.

* БДУ у Менску маіць 15 факультэтаў. Прыкладная матэматыка ёсьць самы малады факультэт пры ўнівэрсытэце.



✢ 2 кастрычніка памёр, а 13 кастрычніка, у Адэляйдзе, Аўстралія, быў забальсамаваны і пахаваны у сядзячай паставе на грэцкім магільніку, украінскі япіскап Сяргей, апякун партыйнай БАПЦ.

---

## ДА 30-ЫХ УГОДКАЎ ПАРТЫЗАНСКАЙ ВАЙНЫ НА БЕЛАРУСІ

Трэба было мець сэрца кіраўніцтва савецкіх партызан каб правакаваць сваіх братоў па маралі SS, SD, каб яны палілі вёску із мірнымі жыхарамі; трэба было мець сэрца НКВДыста каб забраць апошнюю кароўку, апошні хлеб у сям'і дзе было 5-6 а то і больш дзяцей. Заваляцца ў вёску зьненацку дый пачынаюць: „хотим пожрать, что либо! Только, быстро", хоць-бы, як людзі папрасілі. Гэта савецкія партызаны змусілі сялян хаваць пад зямлю майно дый сеіць збожжа ці садзіць агародніну наверсе, тое што магчыма хавалі ў студнях. Савецкія партызаны штыхамі скапалі вельмі многа агародаў каб знайсьці хаванку із дабром селяніна; для многіх савецкіх партызан гэта стала „прафэсіяй" — па звуку маглі распазнаць дзе і што было схавана. Колькі падлог было паламана ў сялянскіх хатах каб знайсьці працу селяніна. Колькі Беларусаў загналі яны на службу немцам? Людзі за такі „грэх", як венчаньне ў царкве, мусілі ўцекаць туды дзе прабывалі немцы. Зацягнуць у балота, парэзаць нажамі а потым прыстрэліць дзяўчыну толькі затое, што йшла ў другую вёску на малебень сваей рэлігійнай сэкты. Толькі палач-бальшавік мог забраць найдаражэйшае для сям'і — бацьку дый растраляць, як жывёліну ў лесе, затое, што ён асьмеліўся адмовіцца іх вымогаў. Страх-гора ахоплівала навакольныя вёскі, калі НКВДысты-палачы нажамі рэзалі шкуру на жывым чалавеку а яго крыкі-просьбы былі чутны навакол праз пяць кілёмэтраў. Калі немцы вынішчалі масава беларускія вёскі із тае прычыны, што савецкія партызаны выкарыстоўвалі іх эканамічна, то савецкія партызаны растрэльвалі, зьдзекваліся затое, што Беларусы ня ўмелі гутарыць па расейску (Лепельшчына, банды Родйонова), Сталін узнагароджваў ардэнамі за такую „адвагу". Прасунуць штых у такогаж самага, як і сам рэнэгата паліцая ў прысутнасьці жонкі і малых дзяцей мог мсьцівец а не ідэйны партызан.

Як толькі немцы былі выгнаны із Беларусі, гэта НКВД і іх беларускія квісьлінгі-партызаны далей мсьцілі народу за яго неахвоту дапамагаць маскоўскім палачам. Гэта гэтыя палачы і іх беларускія квісьлінгі выганялі цэлыя вёскі на Сібір, дзікую поўнач савецка-расейскай імпэрыі, гэта яны разьдзялялі дзяцей ад бацькоў і роднай зямлі.

Шалёная маскоўска-нямецкая вайна пакінула зруйнаванай, амаль да нуля, гаспадарку Беларусі. Людзі на сельскай гаспадарцы ня былі здольнымі пракарміць самы сябе. Апрацоўка зямлі рабілась рукамі, замест каня плуг цягнулі жанчыны і старыкі, было нормай дзе прабывалі савецкія „партызаны". Жывёла была зьнішчана поўнасьцю, нават катоў паелі французы, якія былі на службе ў немцаў. Ваўкі пачалі нападаць на людзей, што ня было чуваць перад гэтым. Насельніцтва было падобнае на цені, замест сьмеху — плач стаўся спадарожнікам гутаркі паміж людзьмі. Такая інфекцыя, як тыф, хваробы ад недаяданьня, зыйсьці з розуму былі рэзультатам савецкай „партызанкі" на Беларусі.

Народ, які 99,9% быў антыбальшавік, дазволіў сваім ворагам, із свайго лесу, напусьціць на сябе такую чуму-палачоў, як чырвоныя партызаны. Сталася гэта не бяз прычыны. За некалькі стагодьдзяў чужых парадкаў, традыцыя Веча ў нашым народзе загубілась. Прыроджачыя інстынкты, жыцьцёвая практыка, хрысьціянская этыка, няпісьменнасьць зрабілі Беларуса замкнутым самаго ў сябе — індывідуалістам. Чужыццы Беларуса задоўга ўзгадоўвалі і ўзгадоўваюць быць квісьлінгамі а не патрыётамі да свайго народа. Ёсьць вёскі, абшары дзе Беларусы прадаўжаюць па сёньня традыцыю Веча, іх можна распазнаць там дзе былі паўстаньні, уцалеўшыя вёскі ад дыструкцыі ворага. Савецкія школы ўзгадоўваюць і ўзгадоўвалі інтэлігенцыю із Беларусаў, як квісьлінгаў расейскаму народу; прышоўшая моладзь да савецкіх школ ёсьць апартуністычная да мэты. Хіба такая інтэлігенцыя магла быць правадыром Беларускага Народа ў такі крытычны час?

Задаволіць свой індывідуалізм, палітычная няпісьменнасьць, адсутнасьць ідэйна вядучай эліты былі асноўныя прычыны чаму на нізох мы пачалі шукаць супрацоўніцтва із немцамі альбо савецкімі „партызанамі". Вось ён пойдзіць да паліцыі а па вайне дастаніць хутар дый йшчэ там дзе ён хочыць. Яж ёсьць мужык, мне ня быць панам. Якая розьніца, хто будзіць пан. Маскоўская форма гаспадаркі — калгас не для мяне, пагэтаму пайду служыць другому пану. Беларусы пайшлі да савецкай партызанкі не радзі марксыстка-крамлёўскіх ідэй, як гэта намагаецца даказаць крэмль, а па той прычыне, што індывідуалізм, роднае каля свайго я было ў небясьпецы альбо ўжо пацярпела. Пайшоўшыя служыць да немцаў Беларусы пачалі паказваць на тых хто ідэйна служыў Сталіну, ці проста па прыродзе любіў быць актывістам. Найгоршы падпал гэта была мабілізацыя Беларускай Моладзі да савецкай „партызанкі", вясною 1942 г., а тое самае лета наехаўшыя нямецкія акупацыйныя войскі із іх памагатымі, пакаралі не па людзкі сем'і якія апынуліся ў савецкай „партызанцы". Вось цяпер Беларусы пайшлі ваяваць а найгорш гэта паміж сабой. Із-за цябе забілі майго сына. Гэта ты сабака данёс на мяне. Гэта ты быў членам сельсавета дый накладаў на мяне больш нарыхтовак. Гэта праз цябе майго брата выслалі. Ты служыў у НКВД а цяпер прылізаўся да немцаў. Як немцы прыйшлі, гэта ты пракалоў вочы Леніну і Сталіну на партрэту і г. д., і г. д. Эмоцыі набралі найвышэйшы пункт. Нашыя ворагі маскалі і немцы выкарыстоўвалі нас умела. Беларусы ў савецкай „партызанцы" былі мсьціўцы за асабістыя крыўды, так як і паліцаі із Беларусаў на службе нямецкай жандармэрыі.

Савецкая „партызанка" на Беларусі ня была Нацыянальна-Беларускай Партызанкай. Савецкая партызанка на Беларусі кіравалась праз чужынцаў. Яна была антынароднай із той прычыны, што яна правакавала Беларускі Народ на адкрытае зьнішчэньне перад многа раз мацнейшым ворагам а самы былі ня здольнымі абараніць ці даць добрую параду Беларусам. Антынароднай яна была таму, што Беларускі Народ не жадаў бачыць прыгонны крамлёўскі парадак на сваіх землях. Антынародныя мэты зрабілі із савецкага партызана маральна нізкім у сваіх дзеяньнях, такая форма права, тактыка не маглі быць практыкаваны Беларускім Нацыянальным Партызанствам.

Савецкая „партызанка" на Беларусі была арганізавана каб, як найбольш выкарыстаць наш народ у вайне а не дапамагчы нам.

Расейска-бальшавіцкая прапаганда, ўжо 30 год, замываіць сваю брудна-крывавую правакацыю; абвіняіць тых хто ім не дазволіў выкарыстаць сябе. Масква глядзіць у будучыню, каб і далей выкарыстоўваць Беларусаў, асабліва моладзь. Экспэртаў у Крамлі турбуіць каб Беларусы не зрабілі вывад па сваему г. зн., як дзейнічыць у крытычны час, падобны таму які быў 30 год таму назад.

Пра Беларускую Нацыянальную Партызаншчыну вельмі мала пішыцца, зусім зразумела чаму: яна была колькасна малай альбо ў зародку загінула. Прывядом некаторыя ўрыўкі із артыкула Я. Таўпекі „лаянкай хочуць укррыць праўду", „БеларускіГолас" №194, 1971 год. Артыкул быў зьмешчаны, як адказ на артыкул „Срываем маскі с палачей Белорусского Народа", камуністычны часапіс „Вестнік" у Канадзе. Крэмль і тут затуманьваіць беларускіх Лявонаў із старой эміграцыі:

**„Хлусьня Менскіх спэцаў: яны пішуць, што быццам „Удзельнік" пісаў ў „Беларускім Голасе" аб паўстаньні ўжо ў 1941 годзе Беларускіх „антыкамуністычных партызан". Няпраўда! ані я**

(удзельнік), ані іншыя не пісалі аб нейкіх Беларускіх антыкамуністычных партызанах. Ніякіх антыкамуністычных партызанаў у тых гадах ня было, з тае простае прычыны, што камуністычных акупантаў ужо ня было і Беларускія камуністычныя прыслужнікі ўцяклі разам з сваімі гаспадарамі ў Расею, або пайшлі служыць новаму гітлероўскаму акупанту, як „далмэчэры" працаўнікі СД, следчыя і г. п. На майсцах, калі засталіся камуністы, дык гэта тыя чэсьнейшыя, якія не парвалі сувязі з народам (вёска). Восьжа на іх і на сотні разоў лічнейшых Грамадоўцаў пасыпаліся даносы да Немцаў з боку перадусім Палякоў, якія адразу сталі на поўную калябарацыю з Немцамі. Вярнулася былая Пальская паліцыя, абшарнікі. Яны рабілі сьпісы ўсіх Беларусаў-актывістаў, а Немцы захоплівалі іх і стралялі нават без апытваньня".

.........................................................................................................

„Такім чынам стварыўся і мой атрад з хлопцаў Наваградчыны, Баранаўшчыны і Слонімчыны, дыслякуючыся спачатку пад Лясной".

.........................................................................................................

„З савецкіх партызан былі толькі тады малыя групкі акружэнцаў, складзеных з небеларусаў".

.........................................................................................................

„Цэнтралізацыя Беларускай Народнай партызанкі праз утварэньне Галоўнага Штабу і „Лавы Атаманаў", выйшла ад тады існаваўшай падпольнай групы адноўленай Беларускай Грамады ў галаве з Саковічам. Правідлова піша „Вестнік", што ў 1942 годзе адбылася нарада па справах збройных сілаў у Менску, але гэта была патайная нарада нелегальнай адноўленай Грамады і там вось запала пастанова, пастарацца сцэнтралізаваць усе Беларускія лясныя атрады, з якімі Грамадаўцы на мясцох мелі кантакты. Партызанская нарада, якую „Вестнік" падае, як „нараду Беларускіх ахвіцэраў-маёраў, палкоўнікаў і атаманаў прайшоўшых Гітляроўскую школу ў Нямеччыне" (??), адбылася ў 1942 годзе каля Івацэвічаў. Прысутнічылі на ёй камандзеры 12 Беларускіх партызанскіх атрадаў а не нямецкіх курсантаў, у тым ліку і я, як атаман свайго атраду, а такжа 2 прадстаўнікі палітычнага кіраўніцтва, у тым ліку і Хмара, які і ўвайшоў пасьля ў палітычнае кіраўніцтва партызанкі ад Грамады, ці як „Вестнік" кажа: „ў такіх „партызанах" падвізаўся сам радактар Хмара . . ."

„Вестнік" выдумвае, што Шанько і Канстанчук і Новік-Харэўскі, скончылі маўляў спэцыяльную Нямецкую школу, дзе і атрымаў Шанько чын маёра, тады як ён быў маёр Савецкай арміі і наглай Лавай Атаманаў падвышаны да чыну палкоўніка. Канстанчук-жа ня больш ня менш, як быў сябра Цэнтральнага Камітэту Камуністычнай Партыі Зах. Беларусі, акончыўшы Камуністычную Акадэмію ў Маскве, які быў далучыўся да нацыянальнай Сэцэсьгі ў КПЗБ-Гурына, выступіўшага за самастойны камунізм на Беларусі, проціў Сталіна. За Гурынам тады пайшла ўся партыя, паза жыдамі і палякамі. Камуністы Гурына забілі, а Канчука з іншымі ўпрост выдалі Польскай паліцыі і ён сядзеў 8 гадоў ў Польскіх турмах, а пасьля яшчэ заслалі ў канцэнтрацыйны лягер Картуз-Бярозу. Новік-Харэўскі, стары партызанскі важак яшчэ з 1925 году, ваяваўшы з Палякамі. Гэта ён стварыў легендарны атрад імя атамана Нябабы ў Піншчыне, а хто ня чуў аб атрадзе Дубровы і іншых, аб якіх сяньня падрабязна рана гаварыць. Вось гэтых народных гэрояў прабуюць агэнты Крамля сягоньні ачарніць „Нямецкімі агэнтамі". Нажаль палкоўнік Шанько ня меў у сваім атрадзе добрых дарадцаў, а ў варуках партызанскае вайны, цяжка нам было рабіць часьцейшыя супольныя нарады і кантактавацца за кожным крокам,з нашым палітычным кіраўніцтвам-зьвязнымі Грамады. І таму ён паверыўшы ў добрыя намеры прыляцеўшых з Масквы Савецкіх кіраўнікоў партызанкі (паўнамоцнік Панамарэнкі іхнага Галоўнага Партызанскага Штабу — палкоўнік Лядаў „баця"), пайшоў на перамовы аб супрацы (прыдзелу зброі і лякарстваў абяцаных Масквой) з Лядавым і быў падступам забіты Лядавым падчас размовы. Такія самыя перамовы вялі Савецкія дэлегаты із начальнікам Украінскай партызанкі на Валыні, атаманам Бульбай Бараўцом, але той ідучы на спатканьне ўзяў з сабой 20 кулямётчыкаў, вядома тады яго не чапілі, а Шанько пайшоў з адным ад'ютантам. Мы верылі ў „чэсныя" замеры Савецкіх дывэрсантаў, яшчэ таму, што іхным дэлегатам, быў даўны наш знаёмы, вучань Віленскай Беларускай гімназіі Язэп Урбановіч (ёзік) і мы верылі яго запэўніваньням. Праўда Урбановіч пасьля забойства Шанька (рабілася на яго вачах), заалярмаваў частку нас, каб сьцерагліся подступу і што для яго забойства Шанька і іншых: жахлівы шок, але было ўжо позна, шмат нашых ужо было подступам замардавана. Паводка дэсантаў чакістоўскіх аддзелаў згрупаваньні дывэрсантаў Лядава і генэрала Капусты апанавалі лес і нашыя малыя групы мусялі надпарадкоўвацца іхнаму камандваньню або быць зьнішчанымі, так і сталася. Толькі частка змагла вярнуцца ў гарады і ўліцца ў вёсках ў Самаахову і пасьля ў Беларускія батальёны Краёвай Абароны. Сам Урбановіч, як многа ведаючы, быў пад канец такжа зьнішчаны

**неахвіцыяльна агэнтамі НКВД. Апанаваўшы лес, НКВДыстоўскія дывэрсанты пачалі праводзіць „мабілізацыю" ў партызаны ўсяго мушчынскага насельніцтва".**

Ня будзем апісваць польскай партызанкі, на Заходніх землях Беларусі. У барацьбе за жыцьцё, вялікая колькасьць Беларусаў антыкамуністаў йшчэ па сёньня прабываюць у лесе, із надзеяй на вызваленьня.

Сёньня можна сьцьвердзіць без памылкі, што Беларускі Нацыянальна Партызанскі Рух быў патрэбным із наступных прычын:

1. Для пратэкцыі Беларускага насельніцтва ад чырвоных і чорных акупантаў.

2. Для разбудовы Беларускіх Нацыянальна-Збройных Сіл. Толькі моцнага ўважаюць а слабага выкарыстоўваюць і насьмейваюцца.

3. У крытыкны мамэнт для акупантаў ім трэба больш шкодзіць, а не дапамагаць.

4. Савецкая „партызанка" на Беларусі дапамагла бальшавікам у абароне перад немцамі на франтавой лініі: Ленінград-Масква-Сталінград. Правал гэтых пунктаў мог быць дамавінай, нятолькі для расейскіх бальшавікоў але для расейцаў усякіх колераў. Гэта заставіла-б Захад зьмяніць сваю тактыку дапамогі. Захад шукаў моцных саюзьнікаў у вайне із фашызмам, а не слабых у бядзе.

5. Беларускі Нацыянальна-Партызанскі Рух мог даць пачатак, іншым народам Савецкай імпэрыі, арганізаваць свае збройныя сілы. Напачатку вайны, былі людзі і зброя.

Партызанскае войска, ў адпаведны мамэнт, ёсьць адзінае войска для народа, які не маіць незалежнасьці. Спосаб вайны: дэзарганізацыя акупанта; адукацыя і абарона насельніцтва.

Спроба па вайне арганізаваць партызанку на Беларусі была немагчымай із наступных прычын: рады на эміграцыі ня вераць у партызанскую вайну а трымаюць надзею на калябаранства, як адзіны сродак прыйсці да ўлады. Для рад патрэбна была больш прапаганда, аб іх жыцьці і „дзейнасьці". Быўшыя калябаранты із немцамі маральна не адпавядалі быць ядром Беларускай Нацыянальнай Партызаншчыны.

На эміграцыі трэба прыпомніць радам і камітэтам, што Беларусы не арганізуюць аніякага партызанскага руху для славы палітычных псыхапатаў, радзі вуній.

Вялікі грэх, перад Беларускай Палітычнай Эмыграцыяй, што



нічога не публікуем пра тэхніку партызанскай вайны. Хоцьбы які часапіс выходзіў на вайсковыя тэмы а гэта найлепшае, што маглі зрабіць тыя, што сябе лічаць Беларускімі Вэтэранамі.

**П. Цэдрык**

ЗАМЕСТ З РОДНАЕ МОВЫ

## АДКАЗ
## НА ЗАЦЕМ ПРАЗ МОВУ ВЯЛІКАЛІТОЎСКАГА (БЕЛАРУСКАГА) ПЕРАКЛАДУ БІБЛІ*).

У № 3 (126) „Божага Шляху" з мая-чырвіня 1971 г. выдрукаваны, пад назовам „На кніжнай паліцы", зацем праз мову Новага Закону, перакладзенага імною пры ўчасьцю сьв. памяці ка́заньніка, Др. Масея Гітліна, у мову вялікалітоўскую. Зацемлю, што такая ж наагул мова й перакладзенага намі Старога Закону, каторы цяпер друкуецца. Асьвятчаю, што за мову перакладу адказую я; дадам толькі, што нічагусенькі ў ёй няма, з чым бы ня быў згадзіўшыся Др. Масей Гітлін. Ён тэорытычна добра знаў мову вялікалітоўскую й ведаў, якою мае быць кажная мова літаратурная.

Каб справа датыкалася толькі мяне, я не зьвярнуў бы, хіба, увагі на менаваны зацем, але, будучы вялікалітоўскім мавaведам, маю абавязак бараніць родную мову, бо калі ў кажным грамадзтве, пагатове ў нашым, ня ўсі даволі прыгатаваўшыся, каб адрозьніць праўдзівае ад хвальшывага, напісанага на тэму іхнае мовы.

Наўперад у разгляданым Зацеме кажацца:

„Дзякаваць Богу тлумачэньняў Новага Запавету на беларускую мову ў нас дасюль хапала. Яшчэ ня перастарэлі выданьні др. Ільдэфонса Бобіча, кс. Адама Станкевіча, Антона Луцкевіча, кс. Вінц. Гадлеўскага, кс. Пралата П. Татарыновіча, Архімандрыта Льва Гарошкі. Некаторыя з іх былі толькі частковыя (Бобіча, Станкевіча, Гарошкі), але **ўсе вельмі салідныя** (падчыркненьне мае Я. С.) і карысныя.

„Маючы гэтулькі тлумачэньняў, здавалася, што новы перакладчык толькі ўдасканаліць папярэднія або паправіць недахопы".

Каб вінаваць мяне, што я менаванага ня ўчыніў, належыла б

*) Рэдакцыя „Божым шляхам" адмовілася гэты артыкул выдрукаваць.

паказаць, давесьці, што дагэтулешнія пераклады вымагалі толькі некаторых паправак, чаго ніхто не прабаваў зрабіць. Палавіца зь менаваных перакладаў імне была непрыступная, а што да прыступных, дык не магу тут іх разглядаць. Праз моўную якасьць усіх 6-цёх кажны можа судзіць із тога, што ня было рэцэнзі, крытычнага разгляду іх; бо ж ведама, што ня толькі больш-менш добрымі, але й найлепшымі працамі крытыка займаецца, бо крытыка ня ё хваленьням ані ганеньням, але, разглядаючы, паказаньням добрага й благога. А чыста слабымі творамі крытыка блізу ані не займаецца, начай кажучы, займаецца, як вынятак, зь якіх іншых прычын, а ня хоць бы дзеля найменшае вартасьці самога твору.*)

Але дапусьцім, што, як нейкі надзвычайны вынятак, менаваныя 6 перакладаў запраўды „вельмі салідныя", дарма што крытыка іх абмінула. Калі ўжо першы зь іх быў такі добры, то нашто было рабіць дальшых пяць, ня маючы ні воднага перакладу Старога Закону? Кажны наступны зь іх мусіў бы быць саліднейшы за пярэдні. А калі так, то апошні зь іх, Гарошкаў, мусіў бы быць дасканальны. Машынапіс яго быў разасланы да ацэны шмат каму (хіба, гэта першае стацьцё ў сьвеце, каб пераклад Біблі або іншую навуковую працу прабавалі прымаць плебісцытам) і — прызнаны за нядобры. Аб ім змоўклі, яго пахавалі і толькі цяпер ён выплыў у разгляданым Зацеме.

На месцу гэтта будзе прывесьці энтузіястычны выгук рэд. „Божым Шляхам" (зацем нікім не падпісаны, зн. ён ад самае рэдакцы): „Сяньня беларуская літаратура даганяе творчасьць выдатных народаў ... Маем гэтулькі граматыкаў і слоўнікаў!" Зацемлю, што, відавочна, аўтар Зацему мае наўвеце радзкую **літаратуру** вялікалітоўскую. Але ж у Зацеме ганеньне (ня крытыка) мовы, а не літаратуры; а ведама, што ня кажны добры літаратурны твор бывае з добраю моваю. Прыкладам, М. Багдановіч адзін із **найлеп**шых, калі не найлепшы, поэта наш, а мова твораў ягоных — благая. Вось, у найлепшым, ды малым, вершу ягоным „Пагоня" ня менш дванаццёх моўных абмылаў. Яны гэткія: „За **краіну** радзімую жах". Тут пад краінаю разумеецца ўся Вялікалітва-Беларусь, зн. край. Краіна ня ё край, але толькі складовая часьць краю, як лясіна ня лес, судзіна ня судзьдзе, людзіна ня люд і іншыя пад. „Успомню ваяк**аў** на грозных **канях**", а мае быць: ваяк**оў, на конях**". У бязьмерную даль вы ляціце... Вы за кім у пагоню сьпяшыце?" Тут **ляціце, сьпяшыце** — хормы 2-ое ас. мн. л. абеснага ладу, зн., мае быць націск на канцы. Двойчы ё **бійце** замест **біце.** „Чужынцамі" зам. чужнікамі, „панясьліся" зам. панесьліся, „за дзяцьмі" зам. за дзецьмі, „умерці" зам. памерці. „Прадалі і аддалі ў палон", зам. аддалі (націск на і). А. Міцкевіч найлепшы поэта польскі, але мова ягоная ня прынята да літар. мовы польскае, бо ў ёй шмат рысаў вялікалітоўскіх.

„Гэтулькі граматыкаў і слоўнікаў!" Ідзе яны? вылічча іх! Што за радзкае захапленьне з тога, чаго няма? Там з прынукі, а тут хто вас прынукае? А найгоршае тое, што сілком тарнуецца адна „граматыка" — маскоўская русыфікачная „рэформа" практычнае граматыкі вялікалітоўскае. Яе я разгледзеў у вартыкуле „Моўная палітыка бальшавікоў у Беларускай ССР" (Беларускі Зборнік, кн. 2, б. 49-110, у Мюнхэне, 1955). „Папраўкі" гэтае „рэформы" яшчэ павялічылі яе русыфікацу; разгледзеў я іх у варт. „Некаторыя новыя зьмены беларускае норматыўнае граматыкі й правапісу ў Беларускай ССР" (Беларускі зборнік, кн. 7, у Мюнхене 1957). Із слоўнікамі ня лепей. Вялікі слоўнік Насовічаў, 3 слоўнікі М. Гарэцкага (зь іх адзін із братам, другі з Байковам), слоўнік Байкова-Некрашэвіча, слоўнік Шатэрнікаў, Касьпяровічаў, — усі забаронены. Застаецца пара маленькіх мясцовых слоўнічкаў (Янкоўскага, Юрчанкі) і „Русско-белорускій словарь" 1953 г., разгледжаны імною ў „Беларускім зборніку" № 7, б. 164, у Мюнхене 1957 г. Ці я адзін яго прызнаю за чыста русыфікачны? Ці ня іншыя за такі самы яго маюць? Мы ня знаем, каб хто з вольных Беларусаў прызнаваў яго за нерусыфікачны. Падайце довады, чаму вы яго не прызнаіце за русыфікачны.

А во што пішуць праз яго Вялікаліцьвіны ў БССР:

„Тут да рэчы будзе сказаць пра ‚Русско-белорусский словарь' 1953 г. Прыгатаваны пасьпешліва, на недаволі лексычнай базе, бо падганяла практыка, дый, відаць, не абышлося бяз уплыву тых спрошчаных схемаў, што навязавала вульгарызатарская тэорыя, слоўнік складаўся такім чынам, што вельмі часта на першым месцу ставілася калька, арыгінальнае ж беларускае слова, як правіла, пасувалася назад. Слоўнік далёка не ахапляў усяго багацьця мовы. Пры нябыцьцю іншых слоўнікаў ён на даўгі час стаў падручнаю кнігаю вучыцеляў, перакладнікаў, супрацаўнкоў

*) Такі вынятак быў зрабіўшы й я ў вартыкуліку „Компромітуючая брашурка" у № 1 (28), б. 29 „Веды" з 1954 г., паказаўшы, чаго варта брашурка Л. Іскры (мянушка цяперашняга Архімандрыта Лява Гарошкі) „Сваеасаблівасьці беларускае мовы", у Парыжу 1951 г., каб такім пісаньням не компромітавалі друку вялікалітоўскага.

установаў, газэтаў, часапісаў, радыё, і ўсе заганы ягоныя, нясьпеласьць лексыкаграфічнае думкі адразу ж выпляснуліся ў мову" („Маладосьць" 1968 г. № 11, б. 145).

Тут сказа́на вельмі асьцярожна, бо ў БССР забаронена крытыкаваць сілком урыненую Масквою Вялікаліцьвіном русыфікачную граматыку, такі ж слоўнік, як і падручнікі гісторыі; крытыку іх мае маскоўская комуністычная партыя й НКВД (ці як там цяпер завецца палітычная паліца) ейнае за „буржуазны нацыяналізм". Але вольныя Вялікаліцьвіны могуць казаць адкрыта, што яны — русыфікачныя, сілком урыненыя Масквою Вялікаліцьвіном дзеля зьнішчэньня мовы вялікалітоўскае, а зь ёю й самога народу. Няго ж вы не разумееце, што на'т пасыўнае дачыненьне да русыфікацы ё прыяньням ёй? а што выступаньне супроці асаблівасьцяў нашае мовы ё сьведамаю ці нясьведамаю супрацаю з камуністычна-чарнасоценнаю Масквою ў нішчэньню мовы й народу нашага? Няго ж і вас дасягла прапаґанда іхная?

Мова вялікалітоўскага друку ў БССР надзвычайна благая, яна абдзерта із свайго квету й лісьця, засталіся ў ёй адно сьцімбіры. Тое, што было зроблена на'т дзевятнанцатага стагодзьдзя, адлі за „Нашае Нівы" а за сякое-такое свабоды ў галіне культуры ў 20-х гадох у БССР, — усе зьнішчана й забаронена. Літаратары й публіцыстыя мусяць усё пачынаць з пачатку пад абмежаньням, уціскам, забаронаю, прынукаю. А Масква ўсё чыста хвальшуе — цяперашніню й мінуласьць, забараняе на'т друкаваць запісы з народнае мовы, калі яны нязгодныя з маскоўска-русыфікачнаю „рэформаю".

Дагэтуль быў адказ на тэорытычную часьць Зацему „Божага Шляху", часьць, што ня мае нічагусенькі супольнага з моваю нашага перакладу Біблі. Ужо ў гэтай часьці аўтары Зацему пасьветчылі супроці сябе, засудзілі самы сябе.

Цяпер зьвернемся да абвінаваных „Б. Шл." слоў і хормаў нашага перакладу Біблі.

Аўтары (аўтар?) Зацему толькі ганяць словы або хормы, але не прабуюць даводзіць, чым яны благія. Таксама ня кажуць што́ подле іх мела б быць ужыта замест інкрымінаванага імі. Гэтак робяць тыя, што баяцца адказнасьці: „Я ганю, але мяне ня могуць зганіць, бо я не падаю свайго". Дзеля таго ж аўтар не падаў свайго прозьвішча, але схаваўся за рэдакцу. Адказнасьць жа калектыўная ё безадказнасьцю віннага й несправядлівасьцю да нявінных.

Каб што толькі зганіць, до й аднаго слова, але давесьці праўдзівасьць або апраўіць абвінаванае, надабе ладне слоў і месца.



Затым, дзеля ашчаднасьці месца, ня буду звычайна апісаваць значаньне разгляданых слоў, але падам іх пераклад у мову расійскую й анґельскую, бяручы з картотэкі свайго, пакуль што рукапіснага, слоўніка. Словы разглядаю ў парадку абэцадным тых хормаў іх, у якіх яны паданы ў Зацеме. Прыводзячы спакменьнікі, падаю канчатак родавага склону, а напару й іншых скланоў; а ў дзеясловах па неазначаньніку паказую канчатак 1-ае ас. цяп. (або будучага простага) часу, тады йдзець пераклад, адлі фразы, — таксама з рукапіснага слоўніка, адно скарачаючы іх колькасьць. Па перакладах падаюцца аўтары перакладаў, а па фразах падаецца, ідзе яны запісаны, зн. места або сяло, за ім (у скарачэньню) павет або раён; а калі фраза выпісана зь якога жарала, тады па месцу запісу падана ў дужках жарало яе. Колькі аўтараў або жаролаў адлучаны адно ад аднаго бодкаю з коскаю (;). Калі ё частка няпоўных перакладаў, то поўны паданы чорным друкам.

Словы, зганеныя ў Зацеме, падаю чорным друкам. Усі скарачэньні паданы далавах артыкулу.

**а,** злуч — гл. „Сынтаксычная рыса" (далавах).

**абраклі, мін.** час да „абрачы". „Абрачы" ж паходзе ад „аброк", з каторага й надабе пачаць.

**аброк,** -оку, -і. жертва offering, sacrifice. Чыньце добра душам сваім і сваяком сваім аброкі. Кіт. 25б9. Была́ зямля не сьвячона, Былі́ людзі ня хрышчоны; ня верылі Госпаду Богу, а верылі люту-цмоку. Люту-цмоку далі аброку кажны дзень па чалавеку. Запіс Я. Гладкага ў Глуску Слц. („Божым Шляхам", № 1 з 1951, б. 11). **Даваць, даць аброк** — приносить, принести жертву to give offering. Аброкі ня даўшы... ласкі маёй ня будзе. Кіт. 26а7.

**2.** обет. Кіт.; Кур. Даль) sacrifice.

**3.** клятва (присяга С.) Дсл. oath. Даў аброк ня піць гарэлкі. Дсл.

**4.** даньне аўсу каню або самы авес, даваны каню oats for horses.

Аўтар Зацему абмінуў „аброк", каб ня сьветчыць на сябе самога, бо гэта слова друкавалася ў „Божым Шляхам", як а. Леў Гарошка быў яго рэдактарам. Маем тут прыклад двудушнасьці.

**абраканьне,** дзсп (да абракаць а абракацца) — **1.** жертвоприношение bringing an offering.

**2.** обетование, совершение обета. Дсл. oath. Калі зо сну парваўся да абраканьня, то нэмез (араб., малітву) не запсуе. Кіт. 84б10. Абраканьне да посту. Кіт. 23б3. Зрабіце, паненка, абраканьне ў Белыя Берагі схадзіць. Дсл. Купец із жаноую сьнілі: „Споўніце сваё

абраканьне. Ельн. (Дсл.). (Вініц) пачаў ізноў маліцца й рабіць перад Хрыстом вялікія абраканьні. Тат.: Kvo vadis, 282.

**абракацца** — давать обет. Ксл.; Шсл. to give an offering. (Кул гува іллагу, араб.) не абракаючыся, ня прынята будзе. Кіт 40а9. Ск. **абрачыся** — 1. дать обет. Ксл.; Шсл.; Дсл. Ужо вы, нашы матулі, абрачыцеся памінаць сваякоў. Смал. п. (Дсл.). Абракліся Туркі, усі недаверкі, Божай Маці Нячаеўскай кажны год дань даваці. Дсл. Абраклася схадзіць у Жарэбічы. Рыбчына Сір. (Ксл.). Каб ачуняць, абраклася даць на абедню. Ст. Абраклася панядзелкаваць. Нсл. 467 (пад панядзелкаваць). Як абрачэшся, правую руку на левую ўзлажы. Кіт 83а12. Прыкладаў усіх не падаю.

**аброчны — 1.** тый конь, катораму кажнага часу даюць авес. Нсл. 352 horse receiving a regular portion of oats. Твае аброчныя коні, а мае рады ў гады бачаць аброк. Нсл.

Як „аброк", апрача „авес каню", мае яшчэ іншыя менаваныя значаньні, то й „аброчны", прыслоўе ад яго і спакменьнік, утвораны ад яго, будуць мець падобныя да іх значаньні. Зн.

**аброчны.** — 1. жертвенный, sacrificial.

2. самоотверженный, selfdenying.

**аброчна** — самоотверженно, selfdenyingly.

**аброчнасьць,** стан (подле прым. „аброчны") — самоотверженность, selfdenial.

Як бачым, „аброк" і падобных, гэтта прыведзеных, шырака ўжываюць. А калі йдзе цяпер ня ўжываюць, то даўней ужывалі, як, прыкладам, на прасьцягу віленска-ашмянскім, праз што сьветча мова Аль Кітабу Луцкевічавага. Полёнізмы „ахвяра" (pol. ofiara) таксама ня ўсюдых ужываюць, а даўней нійдзе ня ўжывалі.

Ані ня шкодзе нашаму „аброку" тое, што ён мае чатыры значаньні; наадварот, гэта сьветча, што слова глыбака ўкаранілася ў нашай мове. У кажнай мове ё шмат слоў з колькімі значаньнямі, на'т здараецца із значаньнямі праціўнымі адно аднаму. А некаторыя словы маюць і дзесяток значаньняў.

Першае значаньне „аброку" было „дар Богу із жывёлы або з пладоў зямлі: віна (узьліваньні), мукі (хлебны аброк)" і інш. Як перасталі чыніць такія аброкі Богу, тады значаньне слова „аброк" было перанесена на абятніцы Богу посту, падарожжа да сьвятых месцаў, памогу патрабуючым і інш. А як хто абракаўся, прыкладам, перастаць піць хмельныя напіткі, тады аброк быў свайго роду прысягаю, памаскоўску „клятваю".

Быў час, калі людзі не кармілі свае свойскае жывёлы, а яна сама здабывала сабе корм ня толькі ўлетку, але і ўзімку, з пад сьнегу, як гэта было да нашага часу, прыкладам, ув Орэнбурскіх Татар. А калі ўжо сеялі авес і хацелі ім карміць коні, то ня пушчалі іх ані на авес у полю, ані да аруду з аўсом у сьвірне, а давалі каню авес у ваброчным хатулю, торбе. Пэўне ж супроці травы авес каню быў яму падаркам, не раўнуючы, як дар-аброк Богу; затым і на яго быў перанесены назоў „аброк".

**аброчнік** -іку — апрычонае месца, апрычоны стол або вогнішча, прызначанае да аброкаў, рас. жертвенник altar „Аброчнік" належа да колькіх слоў, прыдуманых імною ў цэлым перакладзе Біблі. Дыкжэ ў мове белр. апрычоныя месцы да складу, памяшчэньня чагось маюць часта назовы на -нік. Прыкл.: **каласьнік** — адгароджаны катух у за́старанку току да ссыпаньня каласоў; **дрывотнік** — месца да складу дроў; **су́днік** — шахва, у каторай дзяржаць судзьдзё; **су́тнік** — кош із вечкам, рас. чемодан; **пярэчнік** — скрыначка да хаваньня пёраў. Подле такіх слоў і прыдуманы „аброчнік".

„будзе **абяшчана** Евангеля". **Абяшчана** ё дзпр. да „абяшчаць" (з об-вешчаць), каторае ё няск. хормаю да абясьціць (з об-весьціць), абяшчу, абесьціш, што, каму — 1. оповестить. Нсл. 356 to notify. Чаму ты мне не абясьціў, калі хацеў ехаць. Нсл.

**2.** довести до всеобщего сведения, огласить. to publish. Абясьціць рассудак суду.

**3.** официальным актом заявить о начале какого-л. действия, положения. to proclaim. Абясьціць вайну. Таксама **абестка** — оповещение (,объявление С.), Нсл. 356. Абесткі ня даў, што паедзе Тм. Таксама **абясьціцца,** абяшчуся — отозваться. Растсл. , голосом дать знать о своем где-л. нахождении. ПНЗ to resound. Таго ж значаньня „аказацца".

Вельмі мыляюцца тыя, што пішуць „абвестка", „абвясьціць", „абвяшчаць" (з бв)), таксама як бы пісалі „абваранка", абвозьня", „абворка" замест „абаранка", абозьня", „аборка" і інш. Толькі словы нашага часу паўсталыя, калі процэс пераходу **бв** у **б** скончыўся, могуць мець **бв,** прыкл. пол. obwarzanka. Але нашыя „абясьціць, абяшчаць" ё ўжо ў лісьце Рыжан да віцебскага князя з каля 1280 г., б. 42 (обестил ся). Ліст гэты выдрукаваны ў „Запісы Бел. Навук. Т-ва, 1, у Вільні, 1938 г. „обвесьціць" ё польскім наватворам.

Нашае „абяшчаць" паходжаньням і значаньням іншае, чымся рас. „обещать", каторае адказуе нашаму „абяцаць".

**адвалока** — 1. проволочка Дсл.; Нсл. 372, промедление delay. Гэта адна адвалока — абяцаў аддаць доўг — а не аддаець. Дсл. Адвалоку робяць у судзе. Нсл. **„Без адвалокі"** — безотлагательно,

аддаляючы яго першага значаньня, тарнавалі заразом да поймаў вышшых (**ліст** дзерва, расьліны і **ліст** — „дукумэнт") або з двух тэрмінаў блізкіх паходжаньням і аднолькавага або блізкога значаньня адзін і далей ужывалі з ранейшым значаньням, а другі тарнавалі да значаньня новага.

Гэтак маем і ў даным прылучаю. Былі словы „грабіць", „грабеж" і „грабаць". „Грабіць" захавала сваё спачатнае значаньне дагэтуль, прыкл. у проказі „грабіць сена" і пад. „Грабеж" спачатку значыла „захоп чужое маемасьці", але ў гаспадарстве вялікалітоўскім яго перш-наперш ужывалі ў значаньню „захоп чужое маемасьці дзеля адзяржаньня досыцьучыненьня свае прэтэнсі да асобы, каторае маемасьць захоплена" (**пабраці ў грабяжы** Стт 1529 г. XII, 2, 5). Статут 1529, перавыданы ў Менску 1960 г., б. 231. А самадыйны, ня з права захоп маемасьці звалі „грабеж безурадны". Тм. З часам і сусім перасталі зваць грабяжом захоп бяспраўны, самадыйны. Ад „,грабеж" у значаньню ўрадовага захопу чужое маемасьці, зн., у значаньню „конфіската", „сэквэстр" сусім прыродна паўстала слова „грабежнік" — той, хто спаўняе грабеж.

„Грабаць" у значаньню спачатным, зн., такім, як „грабіць сена" і пад. блізу не захавалася; і блізу гэтулькі ж захавалася і ў значаньню „хапаць, захапляць чужое". **грабаць** — грести к себе. Нсл. 732, грести, огребать. Дсл .;Пск. (Иеропольский).

Але **грабаць** у поўнай моцы захавалася ў значаньню „хапаць, захапляць самадумам" у фонэтычна зьмененай хорме **глабаць***) — загребать, забйрать, с жадностью хватать. Гсл., грабйть. Нсл. 112; Імсьц. to appropriate. to take possession. Із сваім і маё глабаеш. Нсл. Дзпр. **гла́баны** — грабленный, добытый хищничеством. Нсл. 112. stolen, taken by plunder. Гэта ў яго ўсё глабанае, а не свае. Нсл. Дзсп. **гла́баньне** — грабление, хищение. Ск. **заглабаць** — забрать вместе с своим и чужое. Нсл. 112 а 164, захватить грабежом to pick up things not belonging to you. Заглабаў із сваім і маё. Нсл. 164. Дзсп. **заглабаньне** — присвоение чужого, захватывание. Нсл. 164, грабеж. Заглабаньне к сабе хлеба, адзежы. Нсл. Дзсп. **загла́баны** — присвоенный, захваченный. Нсл. 164. Не нажывешся заглабаным маім дабром. Нсл. Ск. **зглабаць** — схватйть насильно или таино. Нсл. 202. to seize by force or secretly. Зглабаў сабе мае рукавічкі. Нсл. Ск. **наглабаць** — набрать чего-л. много, награбить. Нсл. 302. to take much, to plunder. Наглабаў чужога дабра шмат. Нсл. Дзсп. **наглабаны.** — награбленный, неправедно приобретенный. Нсл. 302. taken by force, unjustly appropriated Гэта дабро ў яго ўсё наглабанае. Нсл. Ск. **наглабацца** — нажиться хищническим образом. Нсл. 302. to grow rich by plundering.

Наглабаўся ад нас шмат. Нсл. Ск. **паглабаць** — грабительски или хищнически забрать что-л. во множестве. Нсл. 435. to take something by force. Усі рэчы нашы к сабе паглабаў. Нсл. Ск. **пазаглабаць** — пограбить, произвести ряд грабежей; ограбить постепенно всех, многйх йлй украсть всё, многое. Імсьц. to steal much from many. Дзпр. **пазаглабаны.** Старыя лісты а акты гаспадарства ў кругабегі вялікіх разбурэньняў, пазаглабаныя ў біблётэкі чужых краёў, ня мала сьветчаць аб мінуласьці Лугвенева. Гарэцкі: Песьні, 5. Ск. **пераглабаць** — перетаскать, позабрать. Нсл. 401. to drag something to another place. Усе дабро пераглабаў к сабе. Нсл. Ск. **прыглабаць** — притянуть к себе, прибрать к своим рукам. Нсл. 498; БНсл. to appropriate. Усе наша дабро прыглабаў к сабе. Нсл. Хто дзее глабаньне тый — **глабаньнік.**

**гля,** дзеясл. частка, ужываюць замест „глянь" тады, як хочуць зьвярнуць увагу чыю (а ня дзеля таго, каб глянуў) — смотри -те (для выраження удивления, изумления чем-л.); послушайте (для привлечения внимания.). Вал. look! to call attention to something.

„Ішоў за ім чысьлены **груд". груд -ду — 1.** небольшое возвышение у реки, озера, болота или среди болота. Ар., бугор. БНсл. elevation on the shore of river or lake, a small island in swamp. Скородзяць груды а ляды. Нк.: Очерки, 402. **Груды пескавыя** — бугры песчаныя. НТ5 (БНсл.) sand mounds.

**2.** куча чего-л. Ржэўскі павет (Афанасьев: Нар. р. сказкй, 1, 1897 г., 182); Дз.; Ксл., ворох. МГсл.; груда. Смл. (Даль), куча хвороста. Смал (Дсл.) heap, pile. Мы ўчора хадзілі ў лес усім сялом паліць груды гальля. Халамер'е Аз. (Ксл.). Груды й пяньнё сохнуць. Нк.: Очеркй, 437. Паліць груды. **Тм.** Ты, мядзьведзю, сьвіньні дзяры, а ты, воўча, у груд кладзі. Смал. (Дсл.). Зб. **грудзьдзё.** Дзядуля, мы (дзервы) ў грудзьдзё складзём. Ржэўскі пав. (Афанасьев: Нар. р. сказки, 1, 1897 г., 182).

**3.** (узглядам птушак) стая. flock (of birds). Пушчаў ён дзесяць сакалоў на лебядзіны груд.

(Далей будзе).

---

*) Правамерна ў мове влл. мняяецца **р** на **л** у словах перанятых із двума **р** (калідор, лімар), але ў радкіх словах сваіх і бяз гэтае ўмовы лучае такая мена.

№ 2 (12), на 3 бачыне „ствараецца Агульнабеларускае прадстаўніцтва із Найвышэйшай Рады і Вышэйшай Вайсковай Рады". Трэба чытаць. Ствараецца агульнабеларускае прадстаўніцтва із Вялікай Рады і Вышэйшай Вайсковай Рады.

№ 3 (13). На 12 бачыне прозьвішча Грыбок падстаўлена, як загаловак да камэнтараў на артыкул „Данос", у газэце „Беларус". Грыбок трэба чытаць, як подпіс аўтара пад артыкулам „Данос".

## УВАГА

Чатыры квартальных часапісы „Веча" за 1971 год і дзьве перафатаграфаваных газэты — „Баранавіцкая Газэта" — каштуюць 2 дал. 50 цэнтаў.

Для тых асоб ці семяў, якім часапісы і газэты былі перасланы без падпіскі наперад, просім, як найхутчай выслаць кошт за часапісы і газэты.

**Радакцыя**

## *ATTENTION*

In 1971, you received four issues of the quarterly journal — "Vieča" and two reproductions of "Baranavickaja Hazeta". The price is $ 2.50. For those who have not submitted payment yet, please send your remittance in as soon as possoble. Thank you.

*Editor*

Радактар: Dr. P. Markouski Editor
Адрыс: 204 State Highway, 18
East Brunswick, N. J. 08816 USA

Цана 50 ц. Price 50 ¢